# ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

№2, ЧЭРВЕНЬ 2012

ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


ПОЛИТИКА

# Стратегия малых дел,
## или Утрачиваемые возможности



**Васіль ПАЛЯКОЎ**

На следующей неделе будет дан официальный старт парламентской кампании и можно сказать, что время споров о формате участия оппозиции в данном политическом действе уже прошло.

Тем не менее, хотелось бы остановиться на некоторых аспектах, которые вряд ли утратят свою актуальность и после осени 2012 года.

***С чем оппозиция подошла к парламентской кампании.*** По большому счету, сейчас попросту повторяется ситуация 2008 года, когда в рамках ОДС произошел раскол между сторонниками участия в кампании «до конца» и сторонниками снятия демократических кандидатов в силу невыполнения властями выдвинутых ранее условий (включение в состав избирательных комиссий представителей оппозиции, регистрация демократических кандидатов и т.д.).

Но если четыре года назад шла большая игра белорусских властей с Западом, впереди маячили места в парламенте и отступление от заявленных условий и, в определенной степени, от принципов имело некоторое объяснение, то сейчас все это выглядит достаточно нелогично.

***Что мы имеем.*** Жесткую позицию по отношению к белорусскому режиму занимает Запад. Над парламентской кампанией довлеют репрессии по отношению к участникам Площади-2010. Не решена проблема политзаключенных и отсутствует малейший намек на отказ от практики фальсификаций итогов голосования.

Логика предшествующих и текущих событий однозначно указывают, что власть себя полностью дискредитировала, и ни одна уважающая себя политическая сила не должна ввязываться в избирательные игры по ее правилам просто из чувства самоуважения и брезгливости.

К этому все и шло… Однако кратковременные интересы одержали у части оппозиции верх над стратегической необходимостью работать на перспективу и бороться за власть и демократию, а не плыть по течению, решая второстепенные

>>> 2

| № участка | Проголосовало по данным комиссии | Проголосовало по подсчетам наблюдателей |
|---|---|---|
| **Гомельский-Юбилейный округ № 31** (кандидат от оппозиции участвовал «до конца») | | |
| участок № 2 | 61,2 % | 43,8% |
| участок № 14 | 71,8 % | 34,1% |
| участок № 28 | 53,1% | 38% |
| **Гомельский-Советский округ № 34** (кандидат от оппозиции снялся) | | |
| участок № 13 | 63,2% | 36,7% |
| участок № 17 | 55,5% | 33,7% |
| ***участок № 29*** | ***35,2% (не опечатка, а факт)*** | ***33,3%*** |
| **Светлогорский округ № 46** (кандидат от оппозиции участвовал «до конца») | | |
| участок № 2 | 73,5% | 73,5% |
| участок № 8 | 62,1% | 56,3% |
| участок № 18 | 73,1% | 48,2% |
| **Речицкий округ № 44** (кандидат от оппозиции снялся) | | |
| участок № 8 | 75% | 69% |
| участок № 14 | 69,2% | 55,9% |

1 <<<

проблемы.

***Немного об аргументах.*** Большого значения аргументация сторонников хождения «до конца» уже не имеет, так как связана в первую очередь с интерпретацией тех или иных фактов, а не реальным положением дел. Тем не менее, утверждение, что отсутствие демократических кандидатов позволит властям расслабиться и «устроить разгул демократии», провести все «в соответствии с законом», заставляет обратиться за фактурой четырехлетней давности.

Занимаясь в 2008 году наблюдением, Совет ОДС Гомельской области смог получить данные по реальной явке избирателей на 53 участках в разных округах Гомельской области. Как это все выглядит по отдельным из них, видно из приведенной выше таблицы.

Иными словами, в подавляющем большинстве случаев в г. Гомеле была зафиксирована явка на уровне 33-45 процентов и выборы не состоялись, в районных центрах области явка была выше, но результаты по явке все равно фальсифицировались. При этом существенные расхождения по явке были зафиксированы, как в округах, где кандидат снялся, так и в тех, где оставался.

Таким образом, очевидно, что, во-первых, явка избирателей не зависела от наличия или отсутствия демократического кандидата в силу политического безразличия общества, что сохраняется и на сегодняшний день. Во-вторых, для фиксирования нарушений не нужно «бросать на амбразуру» пенсионеров и безработных, так как власть все равно будет «показывать» явку на уровне 80-90%, чтобы продемонстрировать «единый порыв власти и народа».

***О главном.*** Отсутствие у оппозиции единой стратегии – это не только (и даже не столько) ее проблема, это проблема демократически ориентированной части общества, которая ждет ясного и четкого посыла и которую можно мобилизовать под понятные и стройные цели. И суть вопроса даже не в том, сниматься или не сниматься (хотя в сложившейся ситуации, «не сниматься» означает переступить через политзаключенных, через провокации и репрессии властей), а в том, чтобы было понятно каждому, чего добивается оппозиция, и как она это будет делать.

Добиваться же нужно одного – делегитимизации власти и ее смены. А для этого нужно называть вещи своими именами и не играть с шулерами в «выборы».

**КУЛЬТУРА**

# Палявыя кветкі растуць на асфальце,

## альбо Абгрунтаваны аптымізм Сяргея Харэўскага*

Напрыканцы траўня ў летапіс інтэлектуальнага жыцця Гомеля дадалася яшчэ адна яскравая старонка: сваімі думкамі наконт ідэнтычнасці беларусаў у XXI стагоддзі падзяліўся з гамельчукамі слынны беларускі мастацтвазнаўца і культуролаг **Сяргей Харэўскі.**

Як вядома, ГМКГА “Талака” 26 траўня працягнула серыю сустрэч з выбітнымі суайчыннікамі ды запрасіла ўсіх цікаўных на публічную лекцыю Сяргея Харэўскага «Беларусь XXI стагоддзя: наша новая ідэнтычнасць»…

На думку Харэўскага, часы перабудовы сталіся нейкім памежным момантам, які пачаў падзяляць савецкую ідэнтычнасць беларусаў з нейкай новай, якая тады яшчэ толькі нараджалася…

Паводле Мікалая Гумілёва, любы этнас грунтуецца на “трох кітах”: 1) этнічная дамінанта, 2) ландшафт, 3) стэрэатыпы паводзінаў. Калі паглядзець на гэтых “кітоў” бліжэй, то мы ўбачым, што сёння беларускі ландшафт непазнавальна змяніўся “дзякуючы” Чарнобылю і яго наступствам ды адмове ад той архітэктурнай традыцыі, што была ўласціва нашым землям...



«Што ж тычыцца этнічнай ідэнтычнасці, то лепш за ўсё вытлумачыць працэсы, якія адбываліся з ёй да перабудовы, - кажа Сяргей Харэўскі, - я магу на прыкладзе з уласнага дзяцінства». Ён навучаўся ў школе французскай мове і на тыповае пытанне настаўніка: « Quelle est votre nationalité?», дзеткі хорам адказвалі: “Soviétique!”

…Знікла такая істотна заўважная розніца паміж насельніцтвам гораду і вёскі, што адразу ж кідалася ў вочы

>>> 3

2 <<<

яшчэ ў 70-я гады. Няма перажыванняў і пачуццяў якія былі сто год таму, калі хто-небудзь з вёскі ў блаславёныя часы "Нашаніўскага адраджэння" вырашаўся шукаць шчасця ў горадзе… Таксама амаль страчаная і нейкая своеасаблівая духоўная, ды і любая іншая, мяжа паміж Усходняй ды Заходняй Беларуссю…

Як сцвярджае спадар Харэўскі "з Менску ідуць імпульсы і іх пераймае ўся краіна". Прычым што цікава – наша сталіца ніколі не была "сялянскай", хоць сама нацыя пэўны час была менавіта такой. Сялянская дамінанта ў Менску не заўважная (калі не выкарыстоўваць гэта як метафару безгустоўнасці), бо ад народных спеваў да той жа традыцыйнай кухні сталіца неяк адмаўлялася, у адрозненне ад колішняй Прагі за часамі фармавання чэшскай нацыі, у якой усё было наадварот.

"Атрымліваецца, – робіць парадаксальную выснову Сяргей Харэўскі, – "ад гэтых "кітоў" ідэнтычнасці захаваліся толькі стэрэатыпы паводзінаў і думак"? А іх наяўнасць у нашага народа дакладна ніхто не аспрэчыць…

Выступаючы своеасаблівым разбуральнікам міфаў, ён сцвярджае, што адзін з найвялікшых з іх тычыцца беларусаў і рэлігіі. Сапраўдных вернікаў вельмі мала, бо "душыцца ў чарзе па святую ваду" ня значыць быць насамрэч праваслаўным… Сяргей Харэўскі лічыць, что сапраўдных хрысціян-вернікаў у Беларусі 5-7 адсоткаў, а гэтая лічба ў сацыялогіі знаходзіцца на мяжы статыстычнай памылкі... І да таго ж, хто б мог падумаць, што менавіта каталіцкая царква (у выпадку Беларусі традыцыйна польскамоўная) будзе ў нас апірышчам беларускай мовы?..

Свет перанасычаны інфармацыяй і да нас ужо давялі, што мы не савецкія людзі, але дзіўная любоў да "таго, што не ведаеш" засталася. Лінія Сталіна, Маркс з Энгельсам у назве вуліц, помнікі Леніну. Няўжо ўсё гэта застаецца па інэрцыі?.. Беларуская ідэнтычнасць з плямамі саветызацыі.

Міф пра беларусаўбульбаедаў – адзін з самых трывалых. Пры гэтым у свеце ёсць іншыя нацыі-бульбаеды, як тыя ж бельгійцы або ірландцы, для якіх гэты прадукт з'яўляецца значна больш сімвалічным і "сваім". Але ў савецкія часы гэта была адна з нешматлікіх дазволеных формаў адрознення ад іншых народаў СССР. Таму і друкавалі ў беларускіх выдавецтвах кнігі рэцэптаў кшталту "1000 блюд из картофеля". Тое самае тычыцца торфу, зуброў ды буслоў.

Жаданне прыдбаць кавалак зямелькі, сваёй, уласнай, – вось здавалася б традыцыйная мара беларуса… Нават 30 год таму адказ быў бы з большага станоўчы, але зараз ужо не. Беларуская нацыя даўно перастала быць сялянскай… Адбылося разбурэнне істотнай канстанты – любоў да роднага кута, мары пра яго былі ледзьве не галоўным складнікам нашай ідэнтычнасці.

Калі звярнуцца да тых вобразаў, якія існуюць у замежнікаў адносна Беларусі то тут усё досыць проста. Тая ж кніга рэкордаў Гінэса прыгадвае такія цікавыя "дасягненні" нашай краіны: самае вялікае балота, самая вялікая магіла (Курапаты), самая вялікая экалагічная катастрофа (Чарнобыль) а таксама страты ў Другой сусветнай вайне, Лукашэнка. Так нас уяўляюць і будуць уяўляць.

Калі ўсё ж-такі казаць пра ўяўленне аб уласнай ідэнтычнасці, то, безумоўна, мы павінны ўсвядоміць, што яно "лепіцца" увесь час. Пакуль што ўсе спробы ненатуралёвым чынам "вывесці" беларускую ідэалогію правальваліся. Мажліва таму, што не ўлічвалася штосьці вельмі істотнае, падсумоўвае спадар Харэўскі.

Спадар Харэўскі зазначыў, што калі весці адлік ад поўнага нуля, за які ўмоўна можна прыняць канец сямідзясятых, дык падставаў для аптымізму болей чым дастаткова! Пакрысе ствараюцца беларускамоўныя школы і садкі, аднаўляюцца храмы ды розныя помнікі архітэктуры, аб чым яшчэ ў сямідзясятыя і памысліць было цяжка… Ствараецца асяродак, як дзіцячы, так і дарослы, які можна назваць беларускамоўным. Выдаюцца мастацкія альбомы і з'яўляюцца беларускамоўныя субкультуры, інтэрнэт сярод карыстальнікаў-беларусаў на вялікі адсотак зрабіўся беларускамоўным. Гарады становяцца прыгажэйшымі, аднаўляюцца архітэктурныя помнікі, з'яўляюцца помнікі дзеячам менавіта нашай гісторыі. Згодна перапісу, расце колькасць людзей, якія размаўляе пабеларуску. Праўда, гэта хутчэй праява пратэстных настрояў, чым рэальнасць, бо калі б 2,6 мільёны



*«Як сцвярджае спадар Харэўскі "з Менску ідуць імпульсы і іх пераймае ўся краіна". Прычым што цікава – наша сталіца ніколі не была "сялянскай", хоць сама нацыя пэўны час была менавіта такой...»*

чалавек кожны дзень размаўлялі б па-беларуску, мы б чулі мову літаральна паўсюль! Дзяржава, на жаль, упарта ігнаруе мэсэдж, накіраваны ёй гэтымі амаль трыма мільёнамі беларусаў.

Да таго ж нельга не адчуваць другаснасць амаль усяго таго, што робіцца ў нашай краіне па-руску. Рускамоўны культурніцкі "прадукт" не заўжды якасны і канкурэнтназдольны (песні, фільмы). Да таго ж стваральнікі такіх праектаў, як правіла, не звяртаюцца да жывой і сучаснай рускай культуры, сапраўды цікавай ды арыгінальнай. Яны рэтранслююць ілюзорны свет есенінскіх уяўленняў пра нейкую міфічную Русь, якой няма.

Нашая нацыянальная ідэнтычнасць можа быць пакалечанай, набываць дзіўныя формы, але яна ёсць! Далёка яшчэ не ўсё ідэальна з развіццём беларускасці ў грамадстве, але калі задаешся пытан-

>>>4

3 <<<

нем як наогул беларусы здолелі выжыць ва ўсіх неспрыяльных варунках калі шчэ 20 год таму нічога з таго, што ёсць зараз станоўчага не было зусім, дык мімаволі робішся аптымістам. Мы як тыя рэстаўратары, гэта ж не брыдкі, а цікавы працэс! А купалы тым часм, ізноўку заблішчаць золатам! І калі нас, неабыякавых да роднай культуры ды мовы, фізічна не знішчаць, дык мы, як спяваў гомельскі бард Андрэй Мельнікаў "непазбежна адродзім усю краіну!" Улада вымушана будзе прыслухацца да нас. А пакуль мы назапашваем аб'ём культуры, ствараем нешта новае, словам жывем, бо мы – беларусы, як "палявыя кветкі, што растуць і на асфальце".

**Наталля Меркіс**
Фота:
**Марыі Булавінскай**
**Друкуецца са скарачэннямі*

**nashkraj.info**



# СМІ паведамляюць

**09.05.2012**
**Радыё Свабода:** «9 траўня ў Гомелі актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі, БХД, Маладога фронту, партыі левых «Справядлівы сьвет» ушанавалі памяць больш як 100 тысяч ваеннапалонных, якія былі закатаваны ў лягеры падчас акупацыі гораду. Сябры АГП і БХД прынесьлі да помніку ахвярам вянкі й кветкі…Лягер ваеннапалонных пачынаўся ад цяперашняй плошчы Паўстаньня і цягнуўся амаль да рачнога порта. Афіцыйная ўлады ў Дзень Перамогі абыйшлі ўвагай гэтае трагічнае месца. Сьвяточныя цырымоніі ладзіліся толькі ля помнікаў салдатам-вызвалям».

**12.05.2012**
**naviny.by:** «На базе исправительной колонии № 4 (гомельская женская колония) 11 мая прошел областной семинар «Дополнительное образование осужденных как эффективная форма их ресоциализации», передает БелаПАН. Участие в мероприятии приняли представители администраций исправительных колоний области, колоний-поселений, учреждений открытого типа, СИЗО, ЛТП, а также общественного объединения «Социальные проекты». Это общественная организация при поддержке представительства зарегистрированного общества Deutscher Volkshochschul-Verband e.V. (ФРГ) в Беларуси уже третий год реализует в ИК-4 и ИУОТ-18 (исправительное учреждение открытого типа) единственный пока в Беларуси проект «Образование взрослых для ресоциализации и профессионализации в исправительных учреждениях». В женской колонии реализуются образовательные программы: цикл занятий социально-психологической поддержки, компьютерные курсы и школа народных ремесел. Отбывающие наказание в ИУОТ-18 принимают участие в программе социально-психологической поддержки…».

**14.05.2012**
**Радыё Рацыя:** «Паламаць стэрэатыпы пра Гомель мае кароткаметражная стужка «Гомель, у якім жывем МЫ». Аўтары ідэі фільма – журналісты, супрацоўнікі Радыё Рацыя Мікола Бянько і Юлія Сівец.

Як кажа Мікола, сітуацыя, калі ў медыйнай прасторы прысутнічае толькі адзін горад – Мінск – падаецца няправільнай, таму і ўзнікла ідэя зняць фільм пра Гомель… У фільме шэраг актыўных гамельчанаў распавядаюць пра «свой Гомель», у тым ліку пісьменніца Югася Каляда, лідарка валанцёраў-абаронцаў жывёлаў Святлана Лаппо, фаершчыка Кацярына Герасімёнак ды іншыя…».

**САМОУПРАВЛЕНИЕ**

# Местное самоуправление в действии: литовский опыт

**Василий ПОЛЯКОВ**

*Все уже давно привыкли к тому, что в Беларуси есть органы самоуправления, но, к большому сожалению, нет самого самоуправления. В силу этого вдвойне было интересно в рамках ознакомительной поездки в Литву не только познакомиться с системой местных органов, но и понять, как она работает и насколько имеющийся опыт в перспективе может быть использован в нашей стране.*

Витовтас Курпувесас, председатель Комитета по делам госуправления и местного самоуправления литовского парламента, в ходе встречи в Сейме убедил белорусских участников в том, что развитие местного самоуправления как самостоятельного органа публичной власти (а не продолжения власти государственной) - это часть государственной политики, которая актуальна для государства, партий и общества в целом. В период демократической трансформации 90-х годов Литва перенимала опыт других государств в сфере местного самоуправления и во многом действовала методом проб и ошибок, так как не все можно скопировать в полном объеме без учета местной специфики, культурных традиций, менталитета людей и т.д. В силу этого приходилось переписывать законы о местном самоуправлении и даже вносить поправки в Конституцию страны.

>>> 5

4 <<<

Познавательными были встречи с представителями местных самоуправлений в Каунасе и Аникщяе.

Мэр Каунаса Андрюс Купчинскас – молодой человек, участвующий в самоуправлении уже около 12 лет (с 25-летнего возраста) и имеющий вторую каденцию на своем посту, – рассказал о проблемах города и планах по его развитию.

В Каунасе 50 тысяч студентов и, по мнению мэра, город нужно делать юношеским, чтобы молодежь здесь могла не только учиться, но и остаться работать, имея возможности для дальнейшего продвижения и самореализации.

Если Каунас – второй по величине город в Литве и, соответственно, крупная единица самоуправления, то Аникщяй – небольшой городок, который, однако, крепко стоит на ногах и уверенно смотрит в будущее.



На встрече с руководством Аникщяйского района

В Аникщяйском районе развит экотуризм, много музеев. Здесь родились знаменитые литовские писатели Антанас Венуолис, Броне Буйвидайте, Йонас Билюнас, поэтому интерес к региону очень велик, и руководство района не оставляет данное обстоятельство без внимания. Сейчас задача видится в том, чтобы в Аникщяй туристы приезжали не только на один день, но и оставались здесь для многодневных экскурсий и, соответственно, пополняли бюджет самоуправления. Районная администрация активно использует возможность написания заявок на гранты Евросоюза под реализацию проектов по развитию региона, его инфраструктуры. По словам мэра Аникщяйского района Сигутиса Абелевичуса, потребовалось бы не менее 50-ти лет, чтобы собрать необходимые ресурсы и сделать в самоуправлении то, что было сделано за деньги Евросоюза.

Особенностью Литвы является то, что местные Советы избираются только по партийным спискам и только совсем недавно внесли изменение и можно баллотироваться путем самовыдвижения, хотя на последних выборах только 4 самовыдвиженца по все стране прошли в органы самоуправления. В силу этого локальная политика зависит от партий и их способности между собой договориться.

В Каунасе и Аникщяйском районе самоуправления носят коалиционный характер. Кстати, Аникщяй стал первым самоуправлением, где создали коалицию из консерваторов и социал-демократов, что вызвало резкую критику руководства партии. Однако представитель социал-демократов не ушел с поста вице-мэра и не вывел свою фракцию из правящей коалиции. Впоследствии такие смешанные коалиции стали создаваться и в других самоуправлениях. На локальном уровне идеологические и программные расхождения не так актуальны и не мешают сообща руководить городом или районом.



Фото на память с мэром Каунаса

# Место проведения мирных собраний в Светлогорске находится в аварийном состоянии



**Сценическая площадка Светлогорского городского парка культуры и отдыха, отведенная местными властями для проведения массовых мероприятий, находится в аварийном состоянии. Именно к такому выводу пришли общественные активисты, обследовав так называемый парк культуры и отдыха, где из горожан никто не бывает и можно встретить только огромное количество комаров и мошек.**

**В настоящий момент в парке демонтированы уже все аттракционы, разрушены административные здания и беседки, хотя сама разваливающаяся сценическая площадка пока еще возвышается среди уныния и запущенности в обезлюдевшем месте города.**

# Сродкі масавай інфармацыі паведамляюць...

**16.05.2012**
**belta.by:** «Сотни разноцветных бумажных журавликов изготовят жители Гомеля в солидарность с ВИЧ-инфицированными во время акции «Сохраняя жизнь», которая пройдет 20 мая в городском центральном парке у памятника Первому гомельчанину. Об этом сообщили корреспонденту БЕЛТА в Гомельской областной организации Белорусского общества Красного Креста. Мероприятие приурочено к Всемирному дню памяти людей, умерших от СПИДа… Как пояснили организаторы, японский журавлик «цуру», под знаком которого проходит акция, является символом долголетия и счастливой жизни. Существует древняя легенда, согласно которой, тот, кто сложит 1 тыс. бумажных журавликов, получит от судьбы в подарок одно желание – длинную жизнь, излечение от болезни или травмы… Акция проводится в рамках реализации проекта БОКК «Молодежь против ВИЧ» (при технической и финансовой поддержке Датского Красного Креста) под девизом: «Мы чтим память умерших от СПИДа и уважаем право живущих с ВИЧ на жизнь и поддержку». Ее цель - формирование среди молодежи и широкой общественности адекватного отношения к проблеме распространения ВИЧ-инфекции и людям, живущим с ВИЧ…».

**19.05.2012**
**vgomele.by:** «Ночь музеев» – международная акция, которая впервые была проведена в Берлине в 1997 году, успешно прижилась и в Гомеле. В этом году абсолютно все музеи города провели эту «ночь» необычно. Пожалуй, самое масштабное действо развернулось в Гомельском дворцово-парковом ансамбле. Здесь был представлен проект «Дворцовый комплекс». По словам его куратора, харизматичного Михаила Гулина, такую комплексную программу никогда ещё не видели жители областных центров… Михаил Гулин подчеркнул, что организаторы хотели бы, чтобы проект стал отчасти образовательным и не ограничивался рамками «Ночи музеев», а продолжил своё существование в форме лекций, которые бы способствовали популяризации современного искусства в молодёжной среде, в первую очередь. Это крайне важно, поскольку на сегодняшний день многие молодые перспективные художники узнаваемы за пределами нашей страны, но никак не в Беларуси…».

**20.05.2012**
**gomelcivil.org:** «Прэзентацыя фільма "Лінія Сталіна - Гомельскі рэгіён" адбылася ў грамадзка-палітычным цэнтры на Палескай 52. Раней планавалася арэндаваць канферэнц-залю ў гатэлі "Турыст", але ў апошні момант арганізатары атрымалі адмову. На мерапрыемства былі запрошаныя прадстаўнікі ідэалагічнай вертыкалі гораду, КДБ, актывісты БРСМ, але ніхто з іх не прыйшоў. У пісьмовых адказах, якія зачытаў Кастусь Жукоўскі, і ідэолагі, і БРСМаўцы спасаліся на вялікую занятасьць. З КДБ і іншых ворганаў адказы не прыйшлі…».



ЗАХАПЛЕННІ

# Як пажываюць гомельскія рэканструктары?



**«Старая Вежа», «Моргенштерн», «Турдыён», «Золотая Рысь» , «Грыдні Мсціслава Глебавіча» – вось такім насычаным было рэканструктарскае жыццё 2000-х гадоў у Гомелі. Сярэднявечная Еўропа, Польскае Каралеўства, Вялікае княства Літоўскае… Зараз некаторыя са згаданых клубаў канулі ў Лету. Аднак ці знаходзіцца сёння рух у заняпадзе? Мы паспрабавалі зрабіць невялікі агляд усіх дзейных на сённяшні дзень клубаў горада Гомеля.**



**1. Старая Вежа**

Ад самага ўзнікнення ў 2000 годзе клуб займаецца ваенна-гістарычнай рэканструкцыяй матэрыяльна-побытавай і духоўнай культуры герцагства Баварыя 1360-1400 гадоў. У дзейнасць клуба ўваходзяць рэгулярныя заняткі гістарычнымі танцамі. Акрамя таго, хлопцы рыхтуюць выступы гладыятараў, дэбют якіх паспяхова прайшоў у 2010 годзе ў Мсціславе. Штогод “Старая Вежа” ладзіць уласны фестываль у першыя выходныя жніўня, а таксама Зімовы Баль на каталіцкія Каляды. У апошнія выходныя красавіка клуб праводзіць турнір для навічкоў.

Заняткі “Старой Вежы” адбываюцца шточацвер.

**Кантакты:**
+375293452428,
+375336190039 (Людміла)

**Суполка ВКонтакте:**
vk.com/club23220469

**2. Белы Крыж (Das Weisse Kreuz)**

У бок Нямеччыны хіліць і створаны пазней клуб “Белы Крыж”, але ў шэрагу са Свяшчэннай Рымскай Імперыяй 14-15 стагоддзяў увага ў ім надаецца і Вялікаму княству Літоўскаму XV стагоддзя. Гэта, па сведчаннях аднаго з кіраўнікоў – Яны Гусейнавай, “клуб сяброў”, хаця, акрамя сталай асновы, тут займаецца і некалькі навічкоў. Сябры клуба не маюць рэгулярных заняткаў: кожны робіць сваю справу дома альбо ў майстэрнях.

**Кантакты:**
+375259106436 (Яна)

**Суполка “ВКонтакте”:**
vk.com/club19676830

**3. Турдыён**

Пару словаў пра танцораў. Клуб старадаўняга танца “Турдыён” быў створаны ў 2006 годзе. Еўрапейскія танцы Сярэднявечча, эпохі Адраджэння, кантрадансы XVII стагоддзя, нацыянальныя танцы Заходняй і Усходняй Еўропы – вывучэннем усяго гэтага займаецца дадзены клуб. Але што такое старадаўні танец без адмысловага гарнітура? Узнаўленне строяў і этыкету адпаведных эпох таксама ўваходзіць у мэты турдыёнаўцаў.

Танцоры збіраюцца два разы на тыдзень (у аўторак і чацвер). Клуб не толькі ўдзельнічае ў разнастайных конкурсах і фествалях, але і праводзіць балы, семінары і майстар-класы.

**Кантакты:**
+375259106436 (Яна)

**Суполка Вконтакте:**
vk.com/turdionclub

**4. Бельфіорэ**

Вывучэннем танцаў эпох Сярэднявечча, Рэнесансу, Барока, Ракако займаецца клуб гістарычнага танца “Бельфіорэ”. Тут, у адрозненні ад папярэдняга клуба, назіраецца большы ўхіл на танцы XV стагоддзя. Акрамя таго, удзельнікі рэканструююць

>>> 8

7 <<<

побыт заходняй Еўропы XIV-XV стагоддзяў. Сваім прыкладам клуб паказвае, што рэканструктарскі рух не спыняецца, набіраючы новыя абароты: “Бельфіорэ” быў створаны зусім нядаўна – у 2011 годзе.

Заняткі клуба адбываюцца два разы на тыдзень (чацвер і суботу), а па аўторках і серадах хлопцы займаюцца ў майстэрнях.

**Кантакты**: +375292309366 (Юлія)

**Суполка ВКонтакте:** vk.com/club30429728

**5. Грыдні Мсціслава Глебавіча**

Клуб быў створаны ў 2004 годзе. Аднаўляе ён матэрыяльную культуру Паўднёва-Рускіх княстваў канца XII – сярэдзіны XIII стагоддзяў. У рэканструкцыі строяў, даспехаў, прадметаў побыту, мэблі, ювелірных вырабаў удзельнікі імкнуцца да якасці і апоры на аўтарытэтныя крыніцы. Назва клуба цесна звязана з мясцінай, на якой дзейнічае клуб: Мсціслаў Глебавіч – імя аднаго з князёў Чарнігаўскага княства, у тэрыторыю якога ў XII–XIII стагоддзях і ўваходзіў Гомель.

**Кантакты**:
+375293059023 — Вэлком;
+375256395915 — Лайф;
+375336848338 — МТС

**Сайт клуба:** gridni.org/

Як бачым, заняпадам руху пакуль што і не пахне, хаця і былога ўздыму ўжо няма. Кіраўнік апошняга згаданага намі клуба – “Грыдні Мсціслава Глебавіча” – **Аляксей Сяргееў -** падзяліўся з намі сваімі меркаваннямі наконт варункаў, у якіх існуе сёння рэканструктарскі рух.

***Што зараз адбываецца ў рэканструктарскім руху? Якія тэндэнцыі назіраюцца?***

Збольшага мы валодаем звесткамі па нашым накірунку, мала ведаем, што ствараецца у напрамку «Заходняй Еўропы». Зараз, мне здаецца, увесь рух падзяліўся на дзве плыні - тых, хто заняўся «living history», і тых, хто «рубіцца». Першыя спрабуюць як мага глыбей нырнуць у «глыб вякоў» ( і тут вельмі важна не стаць звычайным “літараедам”). Другія рыхтуюць сябе і сваю зброю да перамогі ў баёўках. Справа гэтых – не ўпасці ў спорт замест рэканструкцыі.

***Наколькі ў Гомелі развіты рух рэканструктараў у параўнанні з іншымі гарадамі і чаму?***

Калі параўнаць колькасць жыхароў і колькасць клубаў, то «гомельскаму руху» можна даць невысокую адзнаку. Але якасць і трываласць рэканструктарскіх традыцый Гомеля падвышае гэтую адзнаку. Чаму так? Індустрыяльны горад, мабыць. А можа, як кажам, “Палессе = дрыгва = дзе ініцыятыва?”

***Дзе на Беларусі рэканструктарская справа развіта мацней?***

Наймацнейшы рух – у Мінску. Значна менш ён праяўляе сябе ў абласных гарадах і часцей залежыць ад мінскіх клубаў.

***У пачатку 2000-х гадоў быў масавы ўздым руху. Ці ёсць людзі зараз, зацікаўленыя рэканструкцыяй?***

Зараз ёсць людзі, зацікаўленыя рэканструкцыяй: да нас далучаюцца новыя сябры.

***Чула, што ў пачатку нулявых шмат хто трапіў у рэкаструктарскі рух праз ралевікоў, праз захапленне фэнтэзійнай літаратурай…***

Самыя сур'ёзныя рэканструктары не гулялі ў ролевыя гульні ніколі, нават у кампутарныя. Больш за тое, людзі, што прыйшлі ў рэканструкцыю з ролевых гульняў так і не змаглі пазбавіцца ад гульні: ім бракуе сур'ёзнага стаўлення да справы. Ды і парыў у часе сур'ёзны - росквіт ралёўкі ў Беларусі прыходзіцца не на пачатак нулявых, а на 1996-98 гады, а рэканструкцыя масавая пачалася ў 2003-2005, “living history” - 2010-2012... Але ж, безумоўна, з кожнага правіла – куча выключэнняў. Наогул, гэта вельмі розныя сферы дзейнасці. Ролевыя гульні - чыста псіхалагічны і педагагічны прыём, выхаванне і навучанне праз гульню. Рэканструкцыя нарадзілася з прыкладнага археалагічнага эксперыменту. Гэта метадалогія навуковая...

***Рэканструяваць 12-13 стагоддзі, напэўна, даволі складана. Дзе клуб “Грыдні Мсціслава Глебавіча” бярэ звесткі па зброі? Якія суадносіны прыдуманага і гістарычна вернага?***

Галоўны крытэр – “ці існавала гэта?”, а ні ў якім разе не “ці падабаецца мне?”. Гэта не ўсе і не адразу разумеюць. Жалеззе рэканструяваць лягчэй: яно праз 700 гадоў захавацца можа. А вось тканіну, адзенне – спрабуем дадумваць з апорай на выяўленчыя крыніцы – мініяцюры, іконы, разьбу. Зрэдку – этнаграфію. Рэдкія знаходкі дадаюць больш пытанняў, чым адказаў. І да іх вельмі цяжка дабрацца.



*«Першыя спрабуюць як мага глыбей нырнуць у «глыб вякоў» ( і тут вельмі важна не стаць звычайным “літараедам”). Другія рыхтуюць сябе і сваю зброю да перамогі ў баёўках. Справа гэтых – не ўпасці ў спорт замест рэканструкцыі...»*

**Валянціна Міронава**

**nashkraj.info**



**ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ**

**Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ**
**А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.**
**Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.**